*«Мы сёння робім тое, што будзе будучыняй для тых, хто захоча адкрыць для сябе сапраўдную Беларусь».*

**Сяргей Будкін**



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

**Андрэй Колас**, Ваўкавыскі гісторык, выкладчык курсаў «Мова Нанова», пасля 10 сутак за кратамі з'ехаў за мяжу. Сямёра сілавікоў са шчытамі і зброяй уварваліся ў дом Андрэя 27 верасня, фармальна — з мэтай праверкі паляўнічай зброі. Пра тое, як яго затрымлівалі, і дапытвалі, пра знаходжанне за кратамі Колас абяцае распавесці пазней.



**Іну Драніцу** асудзілі на 30 сутак адміністратыўнага арышту за бел-чырвона-белы сцяг, які прадстаўнікі ГУБАЗіКа, што прыйшлі да Іны з вобшукам, павесілі самі і сфатаграфавалі для пратакола.



**Вадзім Ермашук**, блогер з Гродна. атрымаў яшчэ 20 дзён адміністратыўнага арышту за «экстрэмізм», нягледзячы на тое, што на яго ўжо заведзеныя дзве крымінальныя справы.

**Артура Жвірыдоўскага** асудзілі да трох гадоў калоніі за тое, што ён вывесіў бел-чырвона-белы сцяг на адной са школ Астраўца, а таксама намаляваў на камяні тры паласы ў бел-чырвона-белым спалучэнні, акрамя гэтага садраў чырвона-зялёны сцяг з будынка адной з дзяржаўных установаў раённага цэнтра.

**Уладзіслава Фёдарава** арыштавалі на 15 сутак: падчас агляду рэчаў перад хакейным матчам у хлопца знайшлі пашпарт з вокладкай, на якой намаляваны герб Пагоня.



# 2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ

**Ужо больш за 400 дзён Аляксандр Васілевіч, суўладальнік рэкламнага агенцтва «Vondel / Hepta», сузаснавальнік «Куку» і «The Village Беларусь», а таксама галерэі Ў, застаецца пад арыштам у СІЗА на Валадарскага ўжо больш за 400 дзён. Дагэтуль ні яго сям'я, ні сам Аляксандр не ведаюць, паводле якога артыкула яго затрымалі.**





**Наталля Хершэ расказала пра ўмовы ў Магілёўскай турме.
Яна ўтрымліваецца адна ў 6-мясцовай камеры. «Далі добрую бялізну, добрую коўдру, але ў камеры прахалодна. Харчаванне тут падобнае да харчавання ў калоніі, і, што вельмі важна, — ёсць выдатныя прагулачныя дворыкі». Калі Наталля расклала ў камеры свае рэчы, то заўважыла, што некаторыя з іх зніклі: дзённік, які яна вяла ў СІЗА на Валадарскага і ў Жодзіне, таксама ў папраўчай калоніі № 4, партрэты, якія яна малявала ў калоніі, сшыткі з яе пазнакамі падчас чытання «Архіпелага ГУЛАГ» і іншых кніг, падпісаныя на нямецкай мове паштоўкі, часопісы «Наша гісторыя», а таксама чыстыя аркушы А4.**



**Зміцер Казлоў**, больш вядомы як блогер Шэры Кот, асуджаны да пяці гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму за нібыта «арганізацыю масавых беспарадкаў» (ч.2 арт. 293 КК РБ), даслаў з няволі ліст, у якім піша, што застаўся зусім без падтрымкі:

***«...У мяне няма блізкіх сваякоў, то цяпер ніхто не можа аказаць мне ніякай дапамогі, ні перадач, ні грашовых пераводаў, ні званкоў, ні спатканняў у мяне не можа быць, і я цалкам застаюся зараз без падтрымкі».***

**Марыя Калеснікава** генеруе крутыя ідэі нават за кратамі. На месцы СІЗА яна хоча зрабіць культурны хаб і музэй ахвяраў рэпрэсій.



# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ




**Кніга перакладаў**
**Цыпрыяна Каміля Норвіда**
**«Над попелам паразы — перамога!..»**
**па-беларуску**
**была <u>прэзентаваная</u> анлайн.**

**Круглы стол «Адвечным шляхам» Ігната Абдзіраловіча і сучасныя выклікі беларускаму светапогляду» адбыўся ў Інстытуце філасофіі НАН. У 1921 годзе Ігнат Канчэўскі у сваім філасофскім эсэ «Адвечным шляхам» прапанаваў шэраг тэм і ідэй, якія сталі вызначальнымі для беларускага мыслення на стагоддзе наперад.**






**Другі выпуск**
**<u>праекта</u> «NowПрост» —**
**серыя размоў купалаўцаў**
**з купалаўцамі.**
**Госць — актор Міхась Зуй.**




**Гродзенскія школы** **назавуць** **у гонар вядомых беларусаў. Гісторыкі лічаць ініцыятыву цікавай, але супярэчлівай.**




**У Аляксандры Хамянок-Федчанкі выйшла аўдыякніга інклюзіўных казак «Італьянскае падарожжа». Гэту і іншыя беларускія кнігі можна паслухаць праз прыкладанне «Кніжны воз».**




**У Валера Гапеева выйшла кніга для дзетак «Жэнька — каралева мышак : гісторыі з жыцця адной беларускай дзяўчынкі»; мастачка — Элеанора Ляхновіч.**




**Запусцілася старонка-галерэя tuzinfm.by — партала, які даў жыццё дзясяткам годных праектаў на мяжы музыкі з гісторыяй, кіно, мастацтвам, літаратурай і які ў гэтым месяцы адзначае 18-годдзе.**

У **Анатоля Брусевіча**, гарадзенскага паэта, літаратуразнаўцы і выкладчыка, выйшаў новы паэтычны зборнік пад назваю «Крылы. Вершы, паэмы».







У **Юрыя Жыгамонта** выйшла кніга «Мястэчкі і вёскі Беларусі».

У Вільні пачаў сваю дзейнасьць «Беларускі дом», дзе адбываюцца культурніцкія імпрэзы, працуе нядзельная школа беларускай мовы. Таксама там сустракаюцца беларусы, якія здаўна жывуць у Вільні, і тыя, каго выехаць са сваёй радзімы прымусілі палітычныя рэпрэсіі. У перспектыве тут узнікне беларускі музей.



**Лялька ад <u>Ганны Заброцкай</u>, прысвечаная перфомансу Яны Шостак.**







**<u>Валер Вішчэня</u>, палітвязень, асуджаны на тры гады «хіміі» ў Віцебску, у адказ на лісты салідарнасці дасылае свае малюнкі.**

**Дзень Маці, у які многія беларускія дзеткі не могуць павіншаваць сваіх матуль Малюнак karikatu.rama**



Абвешчаны пераможцы **Прэміі Цёткі** ў дзвюх намінацыях.






«Творчая кухня» з **Евай Вежнавец**, пісьменніцай, шорт-лістаркай прэміі Гедройця.




**Літаратурна-філасофская кавярня ЗНО**, што ладзіць Беларускі Калегіюм, распачала новы сезон праграмай «Спрэчкі аб літаратуры». **Ганна Севярынец** – гаспадыня кавярні ў новым годзе.

Тэмы: метраполія і эміграцыя, «тусоўкі» і паэты «на самоце», графаманы і літаратары, крытыкі і прамоўтары.



У **Брэсцкім тэатры лялек** пачала працу першая рэжысёрская лабараторыя «Метамарфозы тэатра лялек».

У Кіеве адбыўся акустычны канцэрт **Юрыя Стыльскага**.

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ




Фота: Julia Baier

**Святлана Алексіевіч падзялілася думкамі пра сітуацыю ў Беларусі:**
***«Гэта [маладыя людзі, асуджаныя за ўдзел у пратэстах] неймаверна моцныя людзі, і іх заключныя словы закахалі мяне ў свой народ. Апошняе слова ў судзе — цяпер свайго роду новы літаратурны жанр».***

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Юля Цімафеева і Альгерд Бахарэвіч бяруць удзел у Міжнародным літаратурным фестывалі ў Тбілісі.**




FREE
ALES
PUSHKIN

**Варшаўскі Цэнтр сучаснага мастацтва «Уяздоўскі замак», дзе праходзіць вялікая выстава палітычнага мастацтва, стварыў петыцыю з заклікам да ўладаў неадкладна вызваліць Алеся Пушкіна, беларускага мастака, палітвязня.**

**Праект Змітра Вайноўскага «the REM sleep» пра трагічныя і натхняльныя падзеі ў Беларусі — на вуліцах Любліна.**



**У Нямеччыне праходзіць выстава плакатаў, прысвечаная беларускім пратэстам.**

**Фільм Андрэя Куцілы «Калі кветкі не маўчаць» стаў пераможцам дакументальнага конкурсу Варшаўскага кінафестывалю.**

**На фестывалі «Radar Ost» у Берліне паказалі спектакль «Обморок» паводле раману Святланы Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі».**






**Нямецкая фундацыя «Генсхаген» апублікавала відэа дыскусіі пра Беларусь і становішча пісьменнікаў у Беларусі, у якой прынялі ўдзел сябры Беларускага ПЭНа Уладзімір Лобач і Марыя Мартысевіч.**



**Праект «Празрыстыя сцены»: фатографы з розных краін заклікалі перадаць фотапрывітанне беларускім палітвязням.**



# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**По стану на 10 кастрычніка ў Беларусі 801 чалавек прызнаныя палітычнымі зняволенымі, іх колькасць па-ранейшаму працягвае павялічвацца. Гэта, безумоўна, сведчыць пра тое, што ціск і рэпрэсіі з боку ўладаў не толькі не спыняюцца, але і набіраюць моц.**

**Беларускі ПЭН-цэнтр як аб’яднанне літаратараў асабліва заклапочаны лёсам дзеячаў культуры, якія несправядліва апынуліся за кратамі. У кастрычніку 4 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Андрэй Пятроўскі, былы настаўнік гісторыі і грамадазнаўства са Смаргоні (5 кастрычніка);**
**Аляксандр Нурдзінаў, мастак (11 кастрычніка);**
**Анжаліка Борыс, старшыня “Саюза палякаў Беларусі” (14 кастрычніка)**
**і Павел Мазько, дызайнер адзення (21 кастрычніка).**

**Адрасы для лістоў:**

**Андрэю Пятроўскаму – Турма №1. 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1;**

**Аляксандру Нурдзінаву – ПК №1. 211440, г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8;**

**Анжаліцы Борыс – Следчая турма №8. 222163, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А;**

**Паўлу Мазько – СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.**

